І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове КРАСАВІК 2012-2

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага регіёну













стар. 4

## У Гомелі прайшоў Вясновы этап футбольнага Кубка Справаводства па-беларуску!" – 2012

**КДБ: Тэрарыстычная прылада спрацавала ў адной з крамаў Гомеля**
стар. 3

**"Recha" ды "BosaeSonca" адыграюць у Гомелі сумесны канцэрт**
стар. 7

# Школьніца: Відэакліп «Я из деревни!» — гэта кпіна з патрыётаў

***Нават КДБ задаўся пытаннем, ці не поўная лажа кліп Ксеніі Дзягелькі?***

У інтэрнэце ўжо каторы дзень гуляе прапагандысцкі рэп «Я из деревни!» ў выкананні сямікласніцы з гарадскога пасёлка Акцябрскі Гомельскай вобласці Ксеніі Дзягелькі. 18 красавіка ў райцэнтр Акцябрскі прыязджалі нават супрацоўнікі КДБ — спраўдзіць, ці з'яўляецца відэакліп патрыятычным?

А сёння, 19 красавіка, у мясцовы Дом дзіцячай творчасці, дзе высілкамі настаўніка-гурткоўца Андрэя Павука нарадзіліся тэкст і музыка кліпа, панаехалі супрацоўнікі дзяржаўнага тэлебачання, каб з афіцыйнага гледзішча патлумачыць тэкст прапагандысцкага кліпа:

«Долой мини-юбки! Короткое, узкое! Теперь покупать будем всё белорусское!», «Достанем из недр наших фосфор и калий, чтобы в достатке работал аграрий!»

У Доме творчасці так і папярэджваюць: «Мы ўсе каментары пакінем АНТ, БТ. Вось! Пракаментуем усю гэтую сітуацыю».

Тым часам бацькі Ксеніі сталі абачліва аберагаць 13-гадовую дачку ад дачаснай папулярнасці: відэакліп усё-ткі рыхтаваўся на піянерскі конкурс «Я — лідар», які мае адбыцца ў Мазыры ўжо на наступным тыдні — 25 красавіка. Мама Ксеніі наогул па-філасофску ставіцца да нечаканай папулярнасці: «Слава — справа такая, яна прыходзіць і сыходзіць. Я са страхам на гэта гляджу. Будзе конкурс, будуць размовы. Меркаванні розныя».

І сапраўды, нават у Акцябрскім па-рознаму ўспрымаюць пасажы, кшталту «Скажем „спасибо“ за хлеб на полях и за хорошую жизнь в деревнях».

Распавядае малады бацька з райцэнтра Акцябрскі: «Калі б гэта была нейкая дзіцячая тэматыка, тады б можна лагодней аднесціся.




По форме кліп яшчэ нічога, а па змесце… Мне не па сабе ад гэтага, што дзяцей уцягваюць у такія рэчы».

Навучэнец Аляксандр з Акцябрскага лічыць, што дзяўчынку проста выстаўляюць у якасці выразніка думак моладзі пра заможнае жыццё пад кіраўніцтвам вясковага лідара: «Арганізавалі і проста чалавека выставілі. Як быццам усё гладка, усё добра, весела. Балёнікі ўсім выдалі, на плошчу выгналі. Сэнсу я наогул не бачу — глупства нейкае. Гэта толькі па тэлевізары паказваюць і хочуць усіх пераканаць. А насамрэч далёка не ўсё так. Кліп гэты — як бы меркаванне моладзі, навязваюць яго нам. А кліп — проста нейкая ганьба».

Гомельскія школьнікі яшчэ больш катэгарычныя ў сваіх меркаваннях.

Дзесяцікласнік Андрэй: «Я лічу, што ўвесь гэты праект, распачаты БРПА і БРСМ — поўная лажа. Моладзь не будзе на такое торакаць.

А тыя, што клюнуць — альбо недаразвітыя, альбо неразумныя патрыёты, якія за Лукашэнку выступаюць».

Аднакласніца Андрэя лічыць відэакліп «прыколам», з якога ў інтэрнэце проста пацяшаюцца: «Гэта наогул усе ўспрымаюць як нейкі прыкол. Не ведаю, гэта жах на самай справе, нейкі калгас! Для сучаснай моладзі гэта вельмі смешна. Я пачатак паглядзела, вытрымала, можа, хвіліну.

Мне падаецца, што гэта прыкол. Ну, блін, усе так успрымаюць».

Але як жа быць з патрыятычным зместам відэакліпа, на які яўна разлічвалі ягоныя стваральнікі?

Школьніца Паўліна: «Я ня бачу абсалютна нічога патрыятычнага. Нават калі браць патрыётаў, то гэта нейкая кпіна з іх».

*БелаПАН*

# КДБ: Тэрарыстычная прылада спрацавала ў адной з крамаў Гомеля

***Інцыдэнт здарыўся 19 красавіка. Падазраюцца «мігранты з краін з тэрарыстычнай актыўнасцю».***

Тэрарыстычная прылада спрацавала 19 красавіка ў гандлёвай зале адной з крамаў у цэнтральнай частцы Гомеля, паведамляе БЕЛТА са спасылкай на прэс-групу Упраўлення КДБ Беларусі па Гомельскай вобласці.

«Крымінальная справа па прыкметах злачынства, склад якога прадугледжаны ч.1 ст.290 КК Рэспублікі Беларусь (пагроза актам тэрарызму) распачата ўпраўленнем КДБ Беларусі па Гомельскай вобласці.

Падставай для распачынання крымінальнай справы з'явіўся факт прывядзення ў дзеянне 19 красавіка 2012 у 13.58 самаробнай прылады для ажыццяўлення дзеянняў тэрарыстычнай накіраванасці ў гандлёвай зале адной з крам у цэнтральнай частцы Гомеля»,

— праінфармавалі ў прэс-групе.

«Экспертыза пакажа, ці была гэта менавіта выбуховая прылада», — растлумачылі ў КДБ. Таксама ў камітэце адзначылі, што пры выбуху ніхто сур'ёзна не пацярпеў. Адзін чалавек атрымаў нязначныя цялесныя пашкоджанні.

Упраўленнем КДБ па Гомельскай вобласці ва ўзаемадзеянні са Следчым камітэтам, пракуратурай вобласці, экспертамі-крыміналістамі УУС аблвыканкама праводзяцца неадкладныя следчыя дзеянні і аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы.

Атрыманыя аператыўныя дадзеныя, а таксама элементы самаробнай прылады, іншыя прыкметы сталі падставай для адпрацоўкі версіі аб «разборках» паміж арганізатарамі каналаў нелегальнай міграцыі з ліку замежных грамадзян, якія прыбываюць пад выглядам навучання ў ВНУ Гомеля.

«У пачатку красавіка гэтага года Упраўленнем КДБ па Гомельскай вобласці была атрыманая інфармацыя аб актывізацыі дзейнасці так званых мэнаджараў, якія прыбылі ў Гомель для арганізацыі паступлення ў ВНУ значнай колькасці навучэнцаў з Сірыі, Йемена, Пакістана і Нігерыі. Раней прыбыцця падобнага роду пасярэднікаў не назіралася, а арганізацыя паступлення ажыццяўлялася ва ўстаноўленым парадку праз Міністэрства адукацыі Беларусі», — адзначылі ў прэс-групе УКДБ па Гомельскай вобласці.




Асобныя элементы прылады, выяўленыя на месцы здзяйснення злачынства, не вырабляліся ў Беларусі і паказваюць на іх замежнае паходжанне, дадалі там.

По выніках агляду запісаў відэакамер назірання, аналізу тэлефонных злучэнняў і іншых дадзеных следчымі і аператыўнымі падпадзяленнямі арганізаваны вышук дзвюх асоб ва ўзросце ад 25 да 35 гадоў, сярэдняга росту. Адзін з падазраваных — каржакаватага целаскладу, носіць кароткую бараду, на твары — ярка выражаны шнар.

Разам з тым следствам адпрацоўваюцца і іншыя найбольш верагодныя версіі.

«Звяртае на сябе ўвагу актывізацыя дзейнасці арганізатараў каналаў нелегальнай міграцыі з краін з тэрарыстычнай актыўнасцю і на ўкраінскай тэрыторыі. Па афіцыйных дадзеных Дзяржаўнай пагранічнай службы Украіны, толькі ў першым квартале гэтага года затрыманыя 390 нелегальных мігрантаў, канфіскавана 181 адзінка зброі, больш за 6 тыс. боепрыпасаў і амаль 6 кг выбуховых рэчываў. З улікам геаграфічнай блізкасці Гомеля да сумежнай тэрыторыі, следства вывучае прадстаўленыя ананімна дадзеныя аб узаемасувязі асоб, якія адшукваюцца ў сувязі з падзеямі, якія адбыліся ў Адэсе», — паведамілі ў прэс-групе.

Упраўленне КДБ Беларусі па Гомельскай вобласці просіць грамадзян, якім вядомая якаянебудзь інфармацыя, якая мае значэнне для расследавання крымінальнай справы, устанаўлення і вышуку асоб, якія маюць дачыненне да арганізацыі злачынства, звяртацца ў УКДБ па Гомельскай вобласці па тэлефоне даверу 127.

*БЕЛТА*

"Трэба ведаць: ісці У краму і ісці НА краму - гэта зусім розныя рэчы!"

# У Гомелі прайшоў Вясновы этап футбольнага Кубка Справаводства па-беларуску!" – 2012

***У сярэдзіне красавіка 2012 года прайшоў чарговы, Вясновы этап Кубка "Справаводства па-беларуску!"-2012 па футболе. У турніры прынялі ўдзел каманды ФК "СпБ-09" (каманда Грамадзянскай ініцыятывы "Справаводства па-беларуску!"), ФК "ПТК" (каманда сайта pytalnik.tk) і ФК "Замежныя Студэнты" (каманда замежных студэнтаў Гомеля). Таксама па-за канкурсам выступалі ФК "ГумНо" (каманда газеты "Гомельскія Навінкі"), уладальнік Кубка "Справаводства па-беларуску!"-2011 і ФК "ГП-Гомель" (каманда гомельскага аддзялення грамадзянскай кампаніі "Гавары Праўду".***




***арганізацыя турніру***



***Брамнік ФК "СпБ-09***

Турнір праходзіў па схеме, калі кожная каманда павінна была згуляць з кожнай і пераможца вызначаўся па ліку набраных ачкоў. Гульня паміж ФК "СпБ-09" і ФК "Замежныя Студэнты" скончылася нічыёй з лікам 6 :6. Пасля гэтага ФК "Замежныя Студэнты" перамаглі ФК "ПТК" у цяжкой барацьбе з лікам 5:2, а ФК "СпБ-09" разграміла ФК "ПТК" з лікам 13:0. Апошні матч стаўся самым рэзультатыўным на турніры.

У выніку ФК "СпБ-09" і ФК "Замежныя Студэнты" набралі роўную колькасць ачкоў (па чатыры) і было прынята рашэнне згуляць дадатковы матч з аднаго тайму для выяўлення пераможцы. У гэтым матчы з лікам 2:1 перамаглі гульцы ФК "СпБ-09" і атрымалі Вялікі Кубак Вясновага этапа "Кубка "Справаводства па-беларуску!"-2012. Сярэдні Кубак атрымаў ФК "Замежныя Студэнты", а Малы – ФК "ПТК", які заняў 3-е месца.

У час матчу паміж ФК "СпБ-09" і ФК "ПТК" адзін з гульцоў "ПТК" атрымаў траўму, але пасля таго, як атрымаў медыцынскую дапамогу зноў увайшоў у гульню. За гэта ён быў узнагароджаны Прызам "За Самаадданасць". Што цікава, пры разыгрыванні Кубка "Справаводства па-беларуску!"-2011 Прыз "За Самаадданасць" атрымала таксама каманда ФК "ПТК", але поўным складам.

Больш за ўсё галоў у матчы забіў ФК "СпБ-09" – 21 мяч. Яны таксама меньш за ўсё і прапусцілі – толькі 7 мячоў. За гэта брамнік ФК "СпБ-09" быў прызнаны самым карысным гульцом турніра.

Удзельнікі турніра атрымалі памятныя падарункі.

Турнір арганізоўвала Грамадзянская ініцыятыва "Справаводства па-беларуску!", сябра Асамблеі НДА (Літва).

"Вельмі ўсцешаны, што Кубак "Справаводства па-беларуску!" стаў рэгулярным і нават

атрымаў развіццё – у гэтым годзе ён складаецца з чатырох этапаў – Зімовага, Вяснавога, Летняга і Асенняга, таксама Фіналу, які традыцыйна адбудзецца на Каляды. Вельмі прыемна, што зараз удзельнічалі не толькі беларусы., але і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, цэлая каманда замежных студэнтаў. Гэта ўсё паказвае, што праз беларускую мову можна данесці любую інфармацыю, беларуская мова гэта жывы і яскравы феномен і яна цікава ўсім. Зрэшты, дзеля папулярызацыі беларускай мовы мы і праводзілі





гэты турнір", - адзначыў адзін з ініцыятараў Грамадзянскай кампаніі Справаводства па-беларуску!" Ігар Случак.

"Вясновы этап атрымаўся вельмі добрым і тут няма нічога дзіўнага – мы ўзялі першае месца! Гэта быў вельмі напружаны турнір, усё вырашылася ў дадатковым матчы, чаго раней не было. Хочу падзякаваць ФК "Замежныя Студэнты" - без іх турнір такім, якім ён адбыўся , не атрымаўся б. Яны прыўнеслі ў яго вылікую інтрыгу і нечувалыя эмоцыі. Ну і канечне, я дзякую сваёй камандзе пераможцы, ФК "СпБ-09", асабліва брамніку, які згуляў проста выдатна, быў сапраўды ці не паловай каманды. І канечне, трэба адзначыць ФК "ПТК" – яны змагаліся вельмі самаахвяравана", - адзначыў Галоўны трэнер ФК "СпБ-09" Яўген Мароз.

Першы Кубак "Справаводства па-беларуску!" быў разыграны перад каталіцкімі Калядамі ў 2011 годзе. Тады перамогу святкавалі футбалісты ФК "ГумНо". У 2012 годзе Кубак праводзіцца ў 4 эпаты, па выніках якіх тры лепшыя каманды трапляюць у фінал, дзе да іх далучаецца уладальнік Кубка-2011. Удзел к Кубку-2012 можа прыняць любая каманда і з любога этапа.

Працяг на стар. 6



# У Гомелі прайшоў Вясновы этап футбольнага Кубка Справаводства па-беларуску!" – 2012

Працяг. Пачатак на стар. 4




І самі Кубкі крупным планам па спасылцы http://vk.com/album-32983171_148504486

А таксама 27 відэа-ролікаў з турніра па спасылцы http://vk.com/videos-19441275?section=album_42961310

*Прэс-служба*
*Грамадзянскай ініцыятывы*
*"Справаводства па-беларуску!"*



Яшчэ 354 фота па спасылцы http://vk.com/album-19441275_155922986

# У гомельскіх маршрутках заклікаюць любіць Радзіму

***Незвычайная рэклама з'явілася ў гомельскіх маршрутках. Прынамсі, ў маршрутным таксі №12 перад вачыма пасажыраў размешчаны аркушы з рэкламай, дзе побач з прапановай набываць танныя дзіцячыя «Ліберо» і адпачываць у начным клубе размешчаны заклікі «Беларусь – лучшая страна в мире!» і «Любите свою родину, белорусы!».***

Цікава, што тут жа, на суседніх аркушах, размешчаны анекдоты пра Вовачку і бландзінак.

Так што адразу і не ўцяміш: ці гэта такі сцёб – пра любоў да Радзімы – лепшай краіны ў свеце, ці сур'ёзныя звароты да патрыятычных пачуццяў.

Размяшчае ў маршрутках рэкламы з заклікам любіць Радзіму рэкламнае агенцтва «АІМ». На сваім сайце прадпрыемства піша, што па сацыялагічных даследаваннях, каля 70% рэспандэнтаў карыстаюцца паслугамі маршрутак, а 63% апытаных звяртаюць увагу на ўлёткі, размешчаныя ўнутры салона. Па дадзеных рэкламнага агенцтва, у сярэднім маршрутка пераводзіць у Гомелі за дзень 250-300 чалавек. Дарэчы, за паслугі рэкламы ў маршрутных таксі агенцтва бярэ прыкладна ад 240 да 490 тысяч рублёў у месяц, у залежнасці ад фармату аркуша, на якім будзе размешчана аб'ява. Цікава, хто аплаціў паслугі рэкламы Радзімы і заклікаў яе любіць, ці гэта была прыватная ініцыятыва рэкламнай канторы?

*spring96.org*

# "Recha" ды "BosaeSonca"

## адыграюць у Гомелі сумесны канцэрт

***Гомельскім меламанам за апошнія паўгады ўжо давялося ўбачыць ды пачуць больш беларускіх гуртоў, чым за некалькі гадоў перад гэтым. У нашым горадзе ўжо паспелі пабыць "РСП", "Akute", "Срэбранае вяселле" ды "Маланка оркестр". На гэты раз гамельчукоў чакае зарад энэргіі ад гуртоў "BosaeSonca" і "Recha", якія дадуць 27 красавіка сумесны канцэрт у "Таўэры".***

Нам удалося ўзяць колькі словаў у лідэра гурта "Рэха" Андруся Такінданга, які ўжо паспеў пабываць у нас са сваім другім гуртом - "Гаротніцай".

Чытайце нашае інтэрвію з адным з самых неардынарных музыкаў Беларусі.

- Андрусь, падаецца ты нядаўна ўжо выступаў у Гомелі з "Гаротніцай", і праз невялікі час зноў прыязджаеш, але на гэты раз з гуртом "Рэха" - ў чым розніца паміж гэтымі гуртамі?

Harotnica Recha цалкам розныя гурты, як музычна, так і канцэптуальна, яны маюць розную аўдыторыю, інструментарый, склад ды й вырашаюць розныя мастацкія задачы.

- Ці не байцеся, што з-за невялікага перапынка паміж канцэртамі таго, што не прыйдзе шмат людзей або для вас не гэта істотна?

Я маю добрую думку наконт Гомеля, гэта ж не вёска з насельніцтвам у 300 чалавек. Для такога горада канцэртная інтынсіўнасць мусіць быць не нашмат меншай, чым для Менску (раз на месяц буйны канцэрт). А тым больш як пісаў вышэй "Recha" і "Harotnica" праэкты розныя. А колькасць людзей на канцэрце для нас рэч важная.

- Як у цябе атрымліваецца сумяшчаць так шмат захапленняў у жыцці - ролю вядоўцы ў тэлепраграме, працу па спецыяльнасці (мастак-рэканструктар, майстар іконнага жывапісу), паэтычнае жыццё ды роль лідэра ў некалькіх музычных гуртах?

Музычная дзейнасць з'яўляецца асноўнай сярод астатніх і падпарадкоўвае свайму графіку другія заняткі. А некаторая перамена працаў дазваляе мне жыць весялей.

- Якія планы ты маеш з гуртамі на будучыню - зразумела, ў першую чаргу з "Рэхам", але і з "Гаротніцай"? Альбом, тур па абласных гарадах, кліпы?

"Recha" не кідае сваіх традыцый-




ных Польскіх канцэртаў і паралельна працуе над кліпамі і альбомам. Дзякаваць Богу ўдаецца выяжджаць і на Беларускія гастролі, плануем іх зрабіць доўгатэрміновымі.

"Harotnica" пакуль абмяжоўваецца ў асноўным Менскам, ёсьць некалькі прапаноў адносна кліпаў, таксама мы збіраемся запісаць колькі новых песняў.

- Як ты ахарактарызуеш музычны накірунак, у якім вы рухаецеся - тое ж "Дапабачэння" гэта сапраўды нейкі прарыў у танцавальную музыку для беларускамоўных песень. Ці не плануеце яшчэ якіх эксперыментаў-сюрпрызаў?

Музычны накірунак "Recha"... Не ведаю, магчама гэта "чалавечая папса", альбо "рэтра-сум". На канцэрце у Гомлі ніякіх эксперыментаў мы не плануем, будзе класічнае, моцнае "Recha" ў самых лепшых традыцыях.

- Як табе Гомель? Ці быў тут раней, што ведаеш, што хацеў бы ведаць?

Так у Гомлі я бываў. Спачатку у складзе музычнай зборнай, гады чатыры назад прымаў удзел ў здымках фільма пра гомельскага майстра-кераміста. Затым год назад пісаў музыку для спектакля вашага лялечнага тэатра "Мухіна вяселле". Каб даведацца горад, трэба будзе летам зладзіць у вас вулічны выступ.

- Як табе публіка і чаго не стае на канцэртах - мо публіка вялая, мо яшчэ якія тэндэнцыі назіраюцца?

Публіка ў вас добрая, жвавая ды энэргічная, таму, мяркую, ўсё пройдзе проста выдатна!

Вялікі дзякуй за інтэрвію!

*Гутарыў Яўген Меркіс*

---

Нагадаем, што адбываецца канцэрт 27 красавіка будзе ў межах супольнай з гуртом "Bosae Sonca" гастролі па Беларусі.

Варта адзначыць, што "Босае сонца" і "Рэха" не ўпершыню даводзіцца выступаць разам. Тлумачыцца гэта найперш тым, што абодва гурты даволі ўдала ўзаемадапаўняюць адзін аднога ў музычным плане, бо спалучаюць у сваіх спевах адразу некалькі разнастайных стыляў.

Гомельскі канцэрт безумоўны абавязковы для наведвання ўсіх меламанаў нашага роднага горада, паколькі гэта сапраўды вартае таго!

Калі: 27 красавіка, а 18:00.

Дзе: начны клуб «Tower club» (г. Гомель, вул. Кірава, 123)

Даведкі па тэл.: 683-45-00 ( Velcom і MTC).

Кошт квіткоў: 20 000

Падзея Вконтакте: vk.com/event37400423

Прыходзце самі ды запрашайце сяброў!

# Жыхар Рэчыцы забіў сужыцельку на вачах дзіцяці і цяжка параніў міліцыянера

***Жыхар Рэчыцы забіў сужыцельку і цяжка параніў участковага інспектара міліцыі, які прыбыў на выклік.***

Як паведамілі ва ўпраўленні Следчага камітэта па Гомельскай вобласці, трагедыя здарылася напярэдадні праваслаўнага Вялікадня, 14 красавіка. У дзяжурную часць Рэчыцкага РАУС паступіла паведамленне ад жыхаркі райцэнтра 1985 года нараджэння, што да яе ў дом спрабуе трапіць сужыцель, з якім яна ў сварцы, і цяпер адбываецца скандал. На месца здарэння быў накіраваны ўчастковы інспектар, капітан міліцыі 1983 года нараджэння.

Калі ён прыбыў па названым адрасе, дзверы ў дом былі адкрыты насцеж, на падлозе ляжала жанчына, а каля яе сядзеў мужчына. Міліцыянер паспрабаваў яго затрымаць, але зламыснік аказаў супраціўленне, пры гэтым цяжка параніў супрацоўніка РАУС нажом, і ўцёк.

Жанчына памерла ад нанесеных нажавых раненняў. У кватэры падчас забойства знаходзілася яе дзіця.

Участковы патэлефанаваў у дзяжурную часць, на месца трагедыі прыехалі хуткая і міліцыя. Супрацоўніка РАУС даставілі ў стане непрытомнасці ў рэанімацыю, потым зрабілі аперацыю. Цяпер ён у бальніцы.

Раніцай 15 красавіка падазроны — мясцовы жыхар 1965 года нараджэння, раней не судзімы, на ўліках не стаяў, быў затрыманы на адной з цэнтральных вуліц Рэчыцы. Па гэтым факце распачаты дзве крымінальныя справы: адна на падставе арт. 139 КК (забойства) і другая на падставе арт. 364 (насілле ў дачыненні да супрацоўніка міліцыі, які выконваў свае службовыя абавязкі).

*БелаПАН*

***Гэты нумар выйшаў пры падтрымцы***




## DIFFERENZE LINGUISTICHE








M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
"Гомельскія Навінкі красавік 2012"
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246050, г. Гомель, вул. Мазаева, 17,
рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2012"

Надрукавана на
Папяровай фабрыцы
"ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.




Мы ў сацыяльных сетках:
***vkontakte.ru:*** http://vk.com/gumno2007
***facebook.com:*** http://www.facebook.com/profile.php?id=100003262396346
***Вольга Пыхава:*** http://vk.com/volha_pyhava
***Аляксей Венецыянаў:*** http://vk.com/id167202367

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA